«Народная Воля» в Facebook www.facebook.com/nv.online.info,
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

№ 36 (4596)

18 мая 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

Народная Воля

**На 17 мая палітычнымі вязнямі ў Беларусі прызнаны 377 чалавек.**

SOS! SOS! SOS!

# ІХ ЛЁС ХВАЛЮЕ БЕЛАРУСЬ

## ЯНЫ І СОТНІ ІНШЫХ БЕЛАРУСАЎ ПАКУТУЮЦЬ У ТУРМАХ


Мікалай Статкевіч


Павел Севярынец


Ігар Лосік


Віктар Бабарыка


Эдуард Бабарыка


Марыя Калеснікава


Максім Знак


Кацярына Барысевіч


Юлія Слуцкая


Андрэй Аляксандраў


Кацярына Бахвалава (Андрэева)


Дар'я Чульцова


Уладзімір Няпомняшчых


Андрэй Пачобут


Аляксей Караткоў


Анжаліка Борыс


Сяргей Ціханоўскі


Яўген Афнагель


Максім Вінярскі


Сяргей Альшэўскі


Наталля Хершэ


Сяргей Драздоўскі


Алесь Пушкін


Марфа Рабкова


Леанід Судаленка


Ала Шарко


Вітольд Ашурак


Дзяніс Івашын


Зміцер Казлоў


Зміцер Фурманаў


Мікіта Залатароў


Рамуальд Улан


Сцяпан Латыпаў


Таццяна Ласіца


Аляксандр Васілевіч


Вікторыя Кульша


Дзяніс Урад

ИЗ-ЗА РЕШЕТКИ

## Александр ФЕДУТА:

# «Регулярно вижу самого себя в телевизоре»



Похоже, что известный политолог и публицист, автор «Народной Воли», которого обвиняют в подготовке госпереворота и покушении на Александра Лукашенко, пока получает далеко не все письма. Во всяком случае почтовая связь с ним пока далека от идеальной: некоторые послания до него доходят, некоторые – нет. Хотелось бы надеяться, что это временное явление и в конце концов переписка с ним наладится.

Пока Александр Иосифович пишет сотрудникам редакции, что в плане здоровья у него *«все благополучно»* – естественно, насколько это может быть в условиях следственного изолятора КГБ.

*«Регулярно вижу самого себя в телевизоре»*, – написал Федута в одном из своих писем. – *Поэтому сообщаю:*

*1. Это действительно я.*

*2. Я действительно признаю себя участником заговора.*

*3. Я действительно даю показания.*

*4. Меня не пытают, не терзают, не мучают. Мало того: мне оказывается вся необходимая медицинская помощь. С этой точки зрения всё благополучно».*

Некоторое время супруга Александра Федуты **Марина Шибко** тоже не получала от него писем, но за последнее время ситуация изменилась к лучшему.

*«В последнюю неделю наладилась переписка с женой*, – сообщает Александр Федута. – *Спасибо всем, кто ее морально поддерживает.*

*Мне покупают книги. Перечитал «Каласы пад сярпом тваім» Короткевича. Начал работу над пособием-комментарием к этой великой книге. Это моя старая идея, а сейчас и время появилось. Хотя приходится писать от руки, и справочников по нашей истории и литературы по творчеству Короткевича явно не хватает.*

*В общем, как-то так».*

Александр Федута пишет, что он сейчас пребывает *«в творческом отпуске»: «А вот как долго он продлится – зависит, увы, не только от меня…»*

**Марина КОКТЫШ.**

РЭПРЭСІІ

# У яго ад крыўды цяклі слёзы…

## Як у Гродне судзілі 64-гадовага пенсіянера Юзафа Нямеру

*У Гродзенскім абласным судзе была перагледжана справа 64-гадовага пенсіянера* ***Юзафа Нямеры****, які ўжо быў асуджаны на два з паловай гады хатняй хіміі за выспятак амапаўцу падчас акцыі пратэсту. Перад гэтым калегіяй суддзяў былі разгледжаны апеляцыйныя скаргі як з боку пракуратуры, так і асуджанага, але прысуд быў пакінуты без змен. І вось пасля чарговага пратэсту пракуратуры рашэнне суда змянілася: Юзаф Нямера асуджаны на 1,5 года калоніі агульнага рэжыму.*

### Рэтраспектыва

Юзаф Нямера быў асуджаны Кастрычніцкім судом Гродна 12 лістапада мінулага года па двух крымінальных артыкулах – за актыўны ўдзел у акцыі пратэсту (ч.1 арт.342 КК РБ) і за насілле ў дачыненні супрацоўніка АМАПа (арт.364 КК РБ). Суддзя **Вольга Бекушава** прызначыла тады пакаранне – 2,5 года «хатняй хіміі».

На акцыі 6 верасня Нямера быў у калоне пратэстуючых. Убачыўшы, што па дарозе амапаўцы цягнуць за валасы жанчыну, заступіўся за яе і даў выспятка аднаму з праваахоўнікаў. Суд палічыў, што гэтым ён нанёс маральную шкоду супрацоўніку АМАПа і да ўсяго яшчэ запэцкаў яго абмундзіраванне.

За кратамі Нямера адбыў тады больш за два месяцы. Дарэчы, у судзе не адмаўляў свайго ўдзелу ў масавым мерапрыемстве. Але пры гэтым падкрэсліваў, што нікога не агітаваў, не ўзначальваў калону і не блакаваў дарогу.

Прысуд тады не задаволіў ні пракуратуру, ні абвінавачанага. І адзін і другі бок падалі апеляцыйныя скаргі. Пракуратура прасіла зрабіць прысуд больш жорсткім, а Нямера прасіў апраўдаць яго па артыкуле 342. Абласная калегія суддзяў пакінула прысуд раённага суда без змен.

У сакавіку абласная пракуратура накіравала апеляцыйны пратэст і на гэта рашэнне, і тады яно было адменена, а справа накіравана на новы разгляд. Судовая калегія ў складзе суддзяў **Кулеша, Бубенчыка** і **Рачынскага** правяла новы разгляд справы.



### «Суд не ў поўнай меры ўлічыў…»

Гэтым разам абласная пракуратура канстатавала, што судом не ў поўнай меры быў улічаны характар супрацьпраўных дзеянняў абвінавачанага.

*«З дасследаваных відэаматэрыялаў бачна, што Нямера актыўна ўдзельнічаў у несанкцыянаваным мерапрыемстве і супрацьстаяні з праваахоўнымі органамі*, – зачытваў з паперы дзяржабвінаваўца **Шалковіч**. – *Прымяніў насілле да супрацоўніка АМАПа, ударыў яго нагой па целе. Распальваў нянавісць да праваахоўных органаў, яго дзеянні былі скіраваны на дэстабілізацыю грамадскага парадку і палітычнай сітуацыі…»*

Пракурор прывёў новыя факты. Аказалася, што Нямера больш за 20 разоў за 10 гадоў прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці па пратаколах супрацоўнікаў ДАІ, а ў 2003-м прыцягваўся да адказнасці паводле артыкула 153 КК РБ. А таму прысуд пракуратура прасіла змяніць на 2 гады пазбаўлення волі з накіраваннем у калонію і штраф у памеры 5400 рублёў.

Праўда, непасрэдна дзяржабвінаваўца Шалковіч у судзе падтрымаў апеляцыйны пратэст толькі часткова і запрасіў для Нямеры пакаранне ў выглядзе 2 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

### «Я прыйшоў на плошчу дзеля мірнага пратэсту…»

Нямера ў сваю чаргу таксама падаў апеляцыйную скаргу і прасіў апраўдаць яго.

І вось у чарговы раз спадар Юзаф перад трыма суддзямі зноў распавядаў сваю гісторыю. Ён не адмаўляў, што прыйшоў на плошчу, каб разам з іншымі гродзенцамі мірна выказаць пратэст супраць насілля і нязгоду з вынікамі выбараў. Не адмаўляў, што ішоў разам з іншымі ў калоне, распавёў, што рух перакрываў АМАП, а не пратэстоўцы. Яшчэ раз свядчыў, што не быў актыўным удзельнікам пратэсту і не ўзначальваў калону, а ішоў у сярэдзіне.

*«Амапаўца я ўдарыў, але зрабіў гэта імпульсіўна, бо бачыў, як двое з іх цягнулі па асфальце дзяўчыну, не мог стрымацца*, – у чарговы раз распавядаў Нямера. – *У судзе той амапавец прызнаў, што ніякага фізічнага болю не адчуў».*

За гэты час пажылы чалавек перажыў сем судовых пасяджэнняў. Пасля прысуду яго паставілі на ўлік у міліцыі, было праведзена 57 праверак – ніводнай заўвагі зроблена не было.

Спадар Юзаф таксама прасіў суд улічыць той факт, што разам з ім жыве 91-гадовая маці, якая хоць і ў свядомасці, але ў ляжачым стане, а ён ёю апякуецца.

Што тычыцца больш як 20 адміністрацыйных пратаколаў ад ДАІ, дык гродзенец патлумачыў: *«Машынай маёй карысталася ўся сям'я, а таксама блізкія сябры, і добрая частка пратаколаў была складзена на іх".*

Таксама мужчына распавёў, што да адказнасці паводле артыкула 153 прыцягваўся за бойку з суседам, які кідаўся на яго з сякерай, і яму даводзілася абараняцца.

Юзаф Нямера катэгарычна не пагадзіўся з абвінавачваннямі кшталту *«распальваў нянавісць да праваахоўных органаў, яго дзеянні былі скіраваны на дэстабілізацыю грамадскага парадку і палітычнай сітуацыі».*

Адвакат Нямеры сцвярджаў, што аргумент пракуратуры, нібыта раённы суд не ў поўнай меры ўлічыў характар супрацьпраўных дзеянняў абвінавачанага толькі таму, што калісьці на яго былі складзены больш за 20 адміністрацыйных пратаколаў і што ён прыцягваўся да адказнасці паводле артыкула 153 КК РБ, не можа быць улічаны.

*«За ўсё гэта мой падабаронны панёс адказнасць*, – канстатаваў адвакат. – *Ды і самі падзеі былі 17 гадоў таму. А цяпер 57 праверак міліцыі засведчылі, што мой кліент паводзіць сябе законапаслухмяна».*

### Вердыкт

Вердыкт быў кароткі. Калегія суддзяў узяла пад увагу аргументы дзяржабвінаваўцы і прызначыла Юзафу Нямеру паўтара года калоніі агульнага рэжыму, улічыўшы той тэрмін, які ён ужо адбыў.

Пасля абвяшчэння прысуду па твары Юзафа Нямеры ад крыўды пацяклі слёзы...

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ОСОБОЕ МНЕНИЕ



# Двигаться вперед для власти страшно, а к демократии – и вовсе неприемлемо

Последние события свидетельствуют о том, что Лукашенко всё же запускает процесс «перестройки» и транзита власти. Возможно, он осознал-таки, что система, которую он так любовно выстраивал более четверти века, в итоге оказалась нежизнеспособной. Иными словами, без него и без внешней подпитки ее ждет неминуемый крах. И то и другое вовсе не вечно, более того, оба фактора сойдут на нет еще при жизни миллениалов, а скорее, даже и раньше. Впрочем, и с ним во главе система уже нежизнеспособна. Поэтому он и начинает ее перестройку в надежде, что новая конструкция окажется более устойчивой и сможет существовать сама по себе.

Как мне кажется, это вряд ли, но то, что время изменений пришло – уже факт. Сколько всё это продлится, сказать трудно, но то, что «лёд тронулся», очевидно для всех, включая верхушку. В любом случае в прежнем состоянии «стабильности» конструкция не останется. В этом смысле события прошлого года не прошли даром, они всё же вывели систему из равновесия, и она начала меняться.

Правда, эти изменения не к лучшему, а к худшему – этакая перестройка со знаком минус. Ведь двигаться вперед для власти страшно, а к демократии – и вовсе неприемлемо. Вот и решили пойти назад – куда-нибудь в эпоху Сталина и Гитлера. Ну, или других подобных «братьев» типа Муаммара, Саддама и Слободана. Почему-то диктаторы абсолютно уверены, что те системы были очень эффективными, а рухнули и были осуждены человечеством случайно или же в результате происков врагов. Примерно так и заявляется. Александр Лукашенко, общаясь с журналистами, вспомнил о судьбах президентов Сербии, Ливии, Ирака и Венесуэлы: *«Муаммар Каддафи. Слушайте, ну кому он мешал? Я его тоже очень хорошо знал, он приезжал к нам. Ну жил он в этой палатке, ему это нравилось – ну пусть живет. Не во дворцах же жил. Не понравился. Потому что он Африку начал поднимать. Он за счет своих денег нашел подземное озеро, начал эту воду пресную качать. Он хотел поднять Африку. А колонизаторам это не надо. В глубину зрите».*

Себя он явно отождествляет с ними, и направленность «реформ» у нашего режима именно в этом направлении. В общем, переход к новому состоянию теперь уже неизбежен. Вопрос только в том, будет ли эта новая реальность хуже существующей, как того хочет режим, или всё же страну ждет лучшее будущее, как мечтает ее народ. По-старому не будет уже точно. По сути дела, авторитарно-патерналистская система, когда лояльность достигается в основном за счет «чарки и шкварки», а репрессии носят точечный и избирательный характер, сменяется жесткой диктатурой. Репрессии теперь неизбирательные, массовые и могут коснуться любого. При этом они даже и не сильно зависят от степени лояльности. «Социальный пакет» при этом урезается до минимума, а в перспективе не исключено, что и до нуля. И вся эта перестройка со знаком минус неизбежно будет сопровождаться деградацией экономики и снижением инвестиционной привлекательности. Впрочем, это уже и происходит. И какой будет новая система – вопрос пока открытый.

Не всё однозначно и с транзитом власти. Наш режим традиционно выбирает наихудший вариант из всех возможных. Однако в данной патовой ситуации любой вариант транзита власти является «меньшим из зол» в сравнении с сохранением статус-кво. Например, после смерти Сталина власть досталась его самым близким и вроде бы верным соратникам. Но продолжать политику сталинизма они не стали. Уж слишком одиозной и бесперспективной она была, причем это стало очевидным и для сталинского окружения. Просто боялись возражать до поры. Думается, и среди нынешней элиты уже есть понимание исторической бесперспективности и обреченности лукашизма, но все боятся выступать против. Однако в случае передачи власти продолжать прежнюю политику вряд ли станут даже они. Хотя легитимнее озвученный вариант транзита власти от этого, естественно, не станет. Как противоречил Конституции, так и будет противоречить – разве что и ее поменяют быстренько. Но это, повторюсь, всё же лучше, чем сохранение системы в неизменном виде. И в последнем случае она со временем рухнет, но с еще более тяжелыми последствиями.

Силовики эту систему тоже уже не спасут, как и Совбез. Да, своего «главнокомандующего» они пока защищают – ну, пока нет реальной угрозы. Но защитят ли они экономику страны от ускоряющейся деградации или, скажем, санкций? Вопрос риторический. А без экономики силовой блок тоже деградирует, поскольку перестройка со знаком минус бьет по всем без исключения.

Старую систему разрушает сам режим. Сможет ли он построить вместо неё неосталинизм или какое-нибудь «чучхе» – не известно. Главное, чтобы народ не согласился на «чучхе». Тогда в конечном итоге именно он будет определять, что строить – развитую, цивилизованную и комфортную для жизни страну или нечто иное.

**Юрий ПШЕННИК, блогер.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
18 МАЯ 2021 г.

РЭПРЭСІІ

# Як у «Беларусбанку» праходзяць кадравыя чысткі

*З супрацоўнікамі «Беларусбанка», якія падтрымалі пратэсты ці нейкім іншым чынам выяўлялі сваю нелаяльнасць да ўлад, не працягваюць працоўныя кантракты або іх проста звальняюць. Прычым гаворка ў тым ліку пра работнікаў кіроўнага звяна. Паводле пэўнай інфармацыі, з восені 2020 года страцілі працу не менш за шэсць менеджараў розных дэпартаментаў і ўпраўленняў банка.*




**«Беларусбанк» – дзяржаўны камерцыйны банк, найбуйнейшы ў Беларусі паводле аб'ёму актываў і маштабу філіяльнай сеткі. Фактычна «Беларусбанк» – манапаліст у фінансавай сферы краіны. Старшыня праўлення банка – Віктар Ананіч, член Савета Рэспублікі.**

## «Максім Юр'евіч, у вас рэцыдыў…»

Намесніка дырэктара фінансава-эканамічнага дэпартамента «Беларусбанка» **Максіма Халецкага** звольнілі ў красавіку адразу пасля таго, як ён адбыў адміністрацыйны арышт.

Менеджара затрымалі 10 сакавіка падчас вечаровай прагулкі ў мікрараёне «Лебядзіны», дзе ён жыве. Яго прызналі вінаватым паводле арт.24.23 («Парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах») і арт.24.3 («Непадпарадкаванне міліцыі») КаАП і пакаралі 25 суткамі арышту.

Ранкам наступнага працоўнага дня Халецкі пісьмова папярэдзіў банк аб прычынах адсутнасці на працоўным месцы, а ўжо праз тыдзень, 18 сакавіка, пасля суда банк паўторна атрымаў усе падрабязнасці ў пісьмовым выглядзе. Аднак 19 сакавіка, калі Халецкі быў у ЦІП на Акрэсціна, да яго прыйшла дэлегацыя з «Беларусбанка». Ім у ізалятары вылучылі асобны пакой, дзе са зняволеным менеджарам гаварыў адзін з прадстаўнікоў банка, а астатнія, паводле яго слоў, сароміліся і вырашылі застацца ў калідоры.

*«Здаецца, што гэта быў пакой для допытаў, бо ў адным кутку быў толькі стол з тэлефонам і насупраць клетка, куды завялі мяне. У клетцы быў прыкручаны табурэт. Мне распавялі, што падрабязную інфармацыю пра маё затрыманне, уключаючы імя і банкаўскую працу, апублікавалі на TUT.BY, і папрасілі напісаць тлумачальную. Дарэчы, каб пісаць, я быў вымушаны праціснуцца паміж сцяной і табурэтам, сесці на халодную падлогу, а табурэт выкарыстоўваць у якасці стала. Я падрабязна ўсё напісаў на чатырох аркушах.*

*Пасля кансультацый у калідоры мне сказалі: «Максім Юр'евіч, у вас рэцыдыў, таму мы вам прапануем звольніцца па пагадненні бакоў». Я сказаў: «Ну вы ж прачыталі тлумачальную, няма для гэтага ніякіх падстаў. Я добрасумленна працую, дый наагул я не згодны з рашэннем суда: мяне затрымалі, калі я проста выйшаў на вечаровую прагулку». На гэта мне сказалі, што ў такім выпадку яны будуць звальняць самі. Я адказаў, што няхай кожны паступае паводле сумлення»*, – распавёў мужчына ў адным інтэрв'ю.

## Ліст з Нацыянальнага банка

5 красавіка, на наступны дзень пасля вызвалення, Халецкі выйшаў на працу, аднак наконт гэтай сітуацыі кіраўніцтва з ім больш не размаўляла. *«Цягам дня на мой камп'ютар пачалі прыходзіць апавяшчэнні, што мяне пазбаўляюць права доступу, а потым увогуле доступ быў заблакіраваны. Але мне ніхто нічога не тлумачыў. А пасля абеду мяне выклікалі ў пакой для перамоў (было 5 ці 6 калег) і азнаёмілі з загадам пра звальненне»*, – згадвае Максім.

Максіма Халецкага звольнілі з фармулёўкай «прагул з няўважлівай прычыны» – менавіта так кіраўніцтва банка расцаніла адбыццё адміністрацыйнага арышту.

*«Копію загада мне на рукі не аддалі, я мог толькі прачытаць гэты дакумент. Я пакінуў там допіс, што азнаёмлены, але з загадам не згодны, бо банк своечасова быў апавешчаны аб прычынах адсутнасці, якія я лічу ўважлівымі. Бо што такое прагул? Гэта свядомы ўчынак. А я ніяк не мог паўплываць на тое, што са мною здарылася»*, – тлумачыць Халецкі.

У загадзе была спасылка на нейкія лісты з Нацбанка, а ў тых – спасылкі на лісты з органаў унутраных спраў.

*«Чаму менавіта Нацыянальны банк? Наколькі я разумею, міліцыя накіравала інфармацыю пра маё затрыманне ў Нацбанк як у орган, які рэгламентуе і назірае за дзейнасцю банкаў. А тыя ўжо звярнуліся ў «Беларусбанк». Паводле тых лістоў, Нацбанк не настойваў на маім звальненні. Наадварот падкрэслівалася, што яны не маюць права загадваць у такіх сітуацыях, што гэта выключна кампетэнцыя «Беларусбанка». Але паколькі я працаўнік банкаўскай сістэмы, то са мной варта правесці тлумачальную размову».*

## «Я проста сядзеў, чакаў, калі мяне забяруць»

Для Халецкага гэта быў не першы адміністрацыйны арышт. 9 снежня 2020 года мужчыну патэлефанавалі з Цэнтральнага РУУС і выклікалі на размову, бо ў міліцыі ўзніклі пытанні наконт колераў рольштор у ягонай кватэры.

*«Мяне запэўнілі, што размовай усё і абмяжуецца, і я прыйшоў у РУУС у пінжаку ды кашулі. Спачатку са мною праводзілі прафілактычную размову, але скончылася яна тым, што на мяне склалі пратакол паводле арт.23.34 КаАП і затрымалі».*

Намесніка дырэктара фінансава-эканамічнага дэпартамента «Беларусбанка» кінулі ў «малпоўнік», дзе ён заразіўся каранавірусам. Праз хваробу разгляд справы над ім перанеслі на 19 студзеня.

Яшчэ да працягу суда адразу пасля выздараўлення кіраўніцтва правяло з Халецкім прафілактычную размову.

*«Размова была з намеснікам старшыні праўлення, які адказвае за кадры і ідэалогію. Мне казалі, што я працую ў дзяржаўным банку і мушу адпаведным чынам сябе паводзіць. І калі ў мяне «недзяржаўная» пазіцыя, то ці варта мне тут працаваць, ці змагу я добрасумленна выконваць свае абавязкі? Былі намёкі, што я магу зліваць нейкую службовую інфармацыю СМІ (хаця я ніколі гэтага не рабіў і не зраблю, бо гэта прынцыповая пазіцыя, якая некалькі разоў агучвалася кіраўніцтву). Запытваліся, за каго я галасаваў».*

Халецкі заявіў тады, што ягоная грамадзянская пазіцыя не з'яўляецца парушэннем і не супярэчыць прафесійным абавязкам. *«Нельга сказаць, што на мяне ціснулі. Проста была размова дзвюх асоб з розным светапоглядам»*, – дадае менеджар.

Халецкі разумеў, што яму могуць даць адміністрацыйны арышт, і таму на ўсялякі выпадак падрыхтаваўся: каб не ўзнікла праблем на працы, ён узяў адгулы і адпачынак за свой рахунак на два тыдні. 19 студзеня суддзя **Дзмітрый Карсюк** сапраўды пакараў яго 10 суткамі арышту, аднак з незразумелых прычын у судзе затрымання не адбылося.

*«Я проста сядзеў, чакаў, калі мяне забяруць. У выніку я выйшаў на працу. А на наступны дзень мяне ўсё ж затрымалі для адбыцця адміністрацыйнага пакарання»*, – кажа ён.

Тады, пасля першага арышту, Халецкага звальняць не сталі: абмежавалася ўсё тым, што ён напісаў тлумачальную.

Раней Халецкага ўжо выклікалі на размовы з кіраўніцтвам, на якіх ўзнікалі пытанні наконт ягоных палітычных поглядаў. Падчас выбараў 2020 года ён быў незалежным назіральнікам.

*«Я прывык да ўсяго ставіцца крытычна, мне было важна пераканацца ўва ўсім асабіста, таму я адмыслова ўзяў адпачынак на гэтыя дні. І я пабачыў, што яўка на маім участку завышана ўдвая. Не ведаю, ці супадзенне, але пасля таго, як была напісаная заява ў РУУС з нагоды праверкі маіх падазрэнняў наконт неадпаведнасці яўкі, мяне паклікалі ў банк пагутарыць. Спачатку хацелі выклікаць з адпачынку (нібыта з'явілася такая неабходнасць на працы), але я зразумеў, што сутнасць была не ў гэтым.*

*Не было нейкіх пагроз, але былі намёкі, напрыклад, «дарма ты ўвязаўся ў гэтае назіранне, можаш і на сутках апынуцца». Я тады адказаў, што я не парушаю заканадаўства».*

## «Я ўпэўнены, што быў ціск звонку»

Халецкі мяркуе, што рашэнне яго звольніць у красавіку 2021 года не было ініцыятывай праўлення банка. Ён падкрэслівае, што раней ніколі не адчуваў да сябе стаўлення з прадузятасцю.

*«Я ўпэўнены, што быў ціск звонку. Разумееце, калі б кіраўніцтва банка хацела мяне звольніць, то мяне звольнілі б яшчэ пасля першага выпадку затрымання. А яшчэ больш лагічна было б проста не падоўжыць са мной кантракт, гэта абсалютна адпавядала б дзейнаму заканадаўству і не цягнула б за сабой рэпутацыйнай рызыкі. Мой кантракт заканчваўся 4 чэрвеня, гэта значыць пачакаць трэба было ўсяго паўтара месяца».*

Сёння Максім Халецкі са сваім адвакатам падаў у Маскоўскі раённы суд Мінска іск супраць «Беларусбанка» за незаконнае звальненне.

*«Ці не баюся я ісці супраць такога буйнога банка? Па-першае, я перакананы, што павінен зрабіць усё, што ад мяне залежыць, каб абараніць свае правы, якія, на маю думку, у дадзеным выпадку парушаны неправавым звальненнем. Па-другое, я не іду супраць банка як такога. Я выступаю супраць, на мой пагляд, неправавога і несправядлівага звальнення, а ў самім «Беларусбанку» працуе шмат добрых людзей і прафесіяналаў сваёй справы, шмат хто з якіх падзяляе маю пазіцыю. Лішняе таму пацвярджэнне – наша з вамі гутарка якраз і пачалася з таго, што нехта з банка расказаў вам ананімна пра мяне, і вы знайшлі мяне ды звярнуліся па каментарый з першых вуснаў»*, – кажа Халецкі.

## «Галоўны сродак шантажу – непрацягненне кантракта»

Інфармацыя пра тое, што ў «Беларусбанку» адбываюцца палітычна матываваныя кадравыя чысткі, трапіла ў СМІ яшчэ ў сярэдзіне сакавіка. Адразу дзве не звязаныя паміж сабой крыніцы ў банку распавялі на ананімных умовах падрабязнасці гэтых рэпрэсіўных захадаў.

Супрацоўнік банка Андрэй (імя зменена з меркаванняў бяспекі) кажа, што пачалося ўсё яшчэ напрыканцы лета мінулага года, калі банк атрымаў ад сілавікоў спісы членаў ініцыятыўных груп альтэрнатыўных прэтэндэнтаў на прэзідэнцтва.

*«Паколькі такіх людзей было шмат і сярод іх былі даволі значныя спецыялісты, то першая аперацыя абмежавалася тым, што іх запрасілі ў падраздзяленне бяспекі і прапанавалі напісаць заяву пра звальненне па ўласным жаданні. Моцна тады не ціснулі, усё залежала ад самога чалавека. Наколькі я ведаю, тады напісала заяву пра звальненне толькі адна жанчына»*, – распавёў ён.

Паводле слоў супрацоўніцы банка Аксаны (імя зменена з меркаванняў бяспекі), пачынаючы з лета 2020 года з'явіліся адразу некалькі спісаў работнікаў «Беларусбанка», да якіх у кіраўніцтва былі пытанні:

– члены ініцыятыўных груп прэтэндэнтаў на прэзідэнцтва (у асноўным гаворка пра ініцыятыўную групу Бабарыкі);

– удзельнікі акцый салідарнасці, якія ў жніўні выходзілі з плакатамі ўздоўж дарогі побач з банкам;

– супрацоўнікі, якія выйшлі са складу праўладнай грамадскай арганізацыі «Беларускі саюз жанчын»;

– тыя, хто выйшаў з прафсаюза.

Цягам восені людзей з гэтых спісаў выклікалі на размовы да кіраўніцтва.

*«Праводзілі гутаркі, нагадваючы пра тое, што мы працуем у дзяржаўным банку і тут няма месца для выказвання сваёй грамадзянскай пазіцыі. Добраахвотна-прымусова вярталі ў склад грамадскіх арганізацый (БСЖ, ФПБ, БРСМ). Галоўным сродкам шантажу было і застаецца непрацягненне кантракта»*, – тлумачыць яна.

## Спісы нядобранадзейных

Кадравыя чысткі актывізаваліся ўвесну. На гэты момант вядомы імёны шасці работнікаў кіроўнага звяна, якіх прыбралі з «Беларусбанка» праз палітычныя матывы. Напрыклад, адзін з іх пазбавіўся працы таму, што быў затрыманы падчас чарговага масавага «хапуну» і пакараны штрафам, а іншы нібыта дазволіў сабе «даволі смелыя выказванні» ў тэлефоннай размове, якая праслухоўвалася. Але толькі Максіма Халецкага менавіта звольнілі. У астатніх выпадках з менеджарамі проста не працягвалі працоўныя кантракты.

Выпадкі Халецкага і некаторых іншых работнікаў кіроўнага звяна мелі вялікі рэзананс у банку, кажа Аксана. Супрацоўнікі разумеюць, што іх звольнілі з палітычных матываў, і абураны такой несправядлівасцю. Колькі ўсяго людзей пазбавілася працы праз палітыку, не вядома. *«Маштабы складана ацаніць»*, – прызнае Аксана. Андрэй кажа, што некалькі тыдняў таму пачаў фарміравацца агульны спіс «нядобранадзейных» працаўнікоў: *«Хутчэй за ўсё, іх кар'ернае прасоўванне замарозяць або гэтых людзей проста будуць прыбіраць з банка».*

Таксама ўвесну 2021 года ўвялі шэраг спецыяльных абмежаванняў для супрацоўнікаў «Беларусбанка».

*«Цягам апошніх месяцаў увялі новае правіла: любы прыём, звальненне або змяненне ўмоў працы мусіць праходзіць праз супрацоўнікаў бяспекі банка. Таксама ўведзены абмежаванні для фота- і відэаздымак у канферэнц-пакоях»*, – кажа наш суразмоўца.

Шэраг абмежаванняў увялі на ўзроўні вусных загадаў. Напрыклад, не рэкамендуецца супрацоўнічаць з арганізацыямі, якія дзесьці засвяціліся ў сувязі з апошнімі палітычнымі падзеямі. Таксама, кажуць, ёсць чорны спіс СМІ, якім нельга даваць каментарыі і ў якіх нельга размяшчаць рэкламу.

## «Большасць проста назірае»

Аксана кажа, што тых, хто падтрымлівае Аляксандра Лукашэнку, у банку зусім мала. Але непасрэдна ў пратэстах брала ўдзел толькі невялікая частка працаўнікоў.

*«Большасць проста назірае. Яны, вядома, супраць таго, што адбываецца ў краіне, абураюцца дзеяннямі ўлад, але нічога не робяць. Актыўнічае невялікая частка супрацоўнікаў»*, – прызнае яна.

Андрэй распавёў, што ў жніўні 2020 года работнікі «Беларусбанка» стварылі петыцыю на адрас старшыні банка з патрабаваннем выступіць супраць гвалту.

*«Вельмі шмат людзей з розных падраздзяленняў падпісаліся пад гэтым. Кіраўніцтва не прыняло гэтай петыцыі, не прыняло людзей. Петыцыю пераадрасавалі прафсаюзнай лідарцы Асмалоўскай. Яна паабяцала, што будзе нейкая агульная заява ад прафсаюза банкаўскіх работнікаў (я ведаю, што аналагічныя петыцыі ствараліся ў шэрагу іншых банкаў – напрыклад, Нацбанку, «Белаграпрамбанку»), але ўсё засталося на ўзроўні абяцанняў»*, – кажа ён.

Потым на тых, хто ініцыяваў гэтую петыцыю і актыўна збіраў подпісы, пачалі ціснуць: або стваралі такія ўмовы працы, каб чалавек сам сышоў, або проста не працягвалі кантракт.

***

Яшчэ ў сакавіку быў накіраваны у прэс-службу «Беларус-банка» запыт з просьбай пракаментаваць інфармацыю пра палітычна матываваныя кадравыя чысткі, але адказу пакуль няма.

**Ігар ІЛЬЯШ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
18 МАЯ 2021 г.

ОТКРОВЕННЫЙ РАЗГОВОР

## Сергей ЗИКРАЦКИЙ:

# «Можно будет издеваться над людьми как угодно, и об этом никто не узнает»

## *Известный юрист о новых законах и переезде в Вильнюс*

***До 2020 года адвокат Сергей Зикрацкий, занимавшийся делами по авторским правам и интеллектуальной собственности, говорил, что не будет вести уголовные дела. Но прошлым летом он публично поддержал Виктора Бабарико, а спустя несколько месяцев практически все «дела» в стране превратились в уголовные. Сергей защищал журналистов, которых судили по политическим мотивам, из-за чего весной 2021-го потерял свою адвокатскую лицензию и уехал в Литву. Я поговорила с Сергеем, пока он отбывал карантин в Вильнюсе, еще не зная, что через пару дней Тихановская объявит его своим представителем «по правовым вопросам».***



Сергея я помню с совсем других времен: когда он с ассистентами защищал чуть ли не каждую первую редакцию СМИ в Минске (нашу тоже) и шутил: мол, если в Беларуси заблокировали медиа – значит, оно пишет правду.

На данный момент я уже несколько месяцев вынужденно живу в Киеве, Сергей – в Вильнюсе. Мы созваниваемся в зуме – у нас обоих на фоне одинаковые бежевые стены арендных квартир. Перед интервью Сергей говорит, что его оставили «за главного» с детьми – он растит двух маленьких дочек. На протяжении всего разговора Сергей отчаянно просит их не шуметь и, когда начинает рассказывать про избиения и Окрестина, понижает голос до шепота – чтобы дети не слышали, о чем говорит папа.

### «Я не успел попрощаться со всеми клиентами – не смог попасть к ним в тюрьму»

**– Сергей, хочу начать с актуального: почему вы решили уехать в Литву? Это было исключительно ваше решение или вам намекнули, что оставаться в Беларуси небезопасно?**

– Никаких намеков не было, ничего прямо не говорило о том, что мне угрожает опасность. Я не думал, что меня могут схватить и посадить в тюрьму, но сейчас в Беларуси в целом не самый лучший психологический климат. Лично у меня нервы крепкие, но моя семья очень сильно переживала из-за ситуации. Начиная с августа разговоры об отъезде велись постоянно, с очень завидной регулярностью – раз в неделю где-то. Особенно остро поднимался этот вопрос, когда во время очередного обыска у клиента меня из квартиры выпихивали. Но пока у меня была адвокатская лицензия, я всерьез отъезд не рассматривал, так как не чувствовал, что есть угроза. Если бы ко мне пришли с обыском или появились другие «звоночки», конечно, я собрал бы чемоданы, но таких поводов не было. А потом у меня забрали лицензию – мой способ влияния на ситуацию. К тому же я понимал, что работать в Беларуси после потери лицензии будет сложно, поэтому мы решились на переезд.

Мы приехали в Литву не на две недели точно. Не вернемся в Беларусь, пока не поймем, что сможем жить в этой стране нормальной жизнью. Пока там просто так хватают людей на улице, просто так отбирают бизнес… Мы не видим смысла жить в такой стране сегодня.

Сейчас у меня есть лицензия на оказание юридических услуг, она дает мне право работать с юридическими лицами и не дает права оказывать услуги физическим лицам и ходить в суды. По сути, у меня сейчас есть право исключительно на консультирование, а его можно осуществлять и дистанционно. Поэтому я попробую продолжить работу с белорусскими клиентами, но физически буду находиться в Литве.

**– Чем, кроме консультирования белорусов, планируете заниматься? Когда появилась новость о вашем переезде, посыпались вопросы: а не станете ли вы работать с офисом Тихановской *(на момент публикации текста Сергей уже публично назван сотрудником команды Светланы. – Прим.KYKY)*.**

– Скажу так: не исключаю, что буду сотрудничать с одной из белорусских инициатив, – я открыт для диалога с любыми людьми, которые работают на благо Беларуси *(смеется)*. У меня уже есть предложения по сотрудничеству, но я не хочу сейчас раскрывать все секреты. Действительно буду работать в Литве над конкретным проектом, который напрямую связан с белорусами, и, конечно, вы знаете этот проект. Просто сейчас я сижу на самоизоляции и решаю бытовые вопросы, вот как все улажу, тогда и расскажу про работу.

**– Что-то мне подсказывает, что речь про BYPOL…**

– Давайте подождем, скоро всё станет известно.

**– Другой адвокат говорил мне, что самое сложное в отъезде из страны – мысль «а что будет с клиентами?». Согласны с ним?**

– Я тоже об этом думал. Пока был адвокатом, меня этот вопрос сильно волновал. Наверное, мне не хотелось уезжать именно потому, что у меня были внутренние обязательства перед моими клиентами. Одно из основных преимуществ адвокатской лицензии – возможность зайти в СИЗО. Да, я защищал людей, но наибольшее удовлетворение в моей работе мне приносили именно походы к клиентам в СИЗО. Я понимал, что для них наше общение очень важно, поэтому у меня действительно не было возможности уехать. Но, когда лицензию забрали, я потерял клиентов как людей, которых могу поддерживать, – у меня больше нет возможности зайти в СИЗО.

Мои клиенты – все взрослые люди, которые прекрасно понимают, в какой стране живут. Они были готовы к тому, что меня отстранят от работы, но попрощаться я успел не со всеми, события разворачивались очень быстро.

Когда 24 марта я не прошел аттестацию, думал, что у меня есть еще месяц, чтобы закрыть все дела, – примерно такой срок давали другим адвокатам. Но уже вечером 29 марта мне сообщили, что рассмотрение вопроса об исключении меня из коллегии адвокатов назначено на 31-е. То есть у меня был всего день, чтобы сходить к клиентам. К сожалению, я успел попасть всего к двоим – к [программному директору «Пресс-клуба»] Алле Шарко и [адвокату] Максиму Знаку, потому что они содержатся в Минске. Я сказал, что прихожу к ним в СИЗО в последний раз, а потом мы встретимся уже на свободе. [Журналистка] Екатерина Бахвалова узнала об этом уже от другого адвоката – так как она находится в Жодино, я не успел до нее доехать, о чем очень сожалею. Еще не успел написать ей письмо, но обязательно это сделаю. А пока передаю ей приветы через других адвокатов.

### «Когда меня выпихивали из квартиры, я был вынужден писать супруге каждые 15 минут»

**– Когда вы осознали, что в Беларуси начался правовой дефолт и правила игры изменились?**

– Он начался еще до выборов, когда стали формироваться избирательные комиссии, в которые назначались люди, согласные «правильно» считать голоса. Вместе с инициативными группами мы пытались обжаловать решения формирования этих комиссий, но нас абсолютно не слушали. Тогда же мне впервые не дали сфотографировать материалы дела – до июня 2020-го такого ни разу не было в моей практике. А дальше всё пошло по накатанной. Мы постоянно задавались вопросом: где же дно? А дна всё не было, с каждым последующим кейсом ситуация только усугублялась.

События августа – полная жесть, к которой мы все были абсолютно не готовы. Многие мои клиенты прошли через Окрестина, где над ними издевались, чуть не сделали их инвалидами. Там же 11 августа оказалась моя хорошая знакомая, друг нашей семьи, – причем попала туда, как и многие, совершенно случайно. Эта женщина больна диабетом, поэтому ей был нужен инсулин. Мне удалось попасть на Окрестина, но там мне сказали: мол, хотите – оставляйте свой инсулин, но мы не уверены, что передадим. Описать чувство беспомощности от этой ситуации сложно. Это сейчас я понимаю, почему не было списков задержанных, почему знакомую задержали около одного РУВД, а оформили в другом, но тогда у меня был шок. Этот случай сильно задел меня, потому что касался близкого мне человека.

Свидетели в балаклавах, судьи, которые выносят абсурдные решения, невозможность ознакомиться с материалами дела – всё это было дальше. Ты бьешься головой о стену, ломишься в закрытые двери, но ничего не получается. Сначала было очень сложно, но потом у меня выработался иммунитет. Я часто знал, какое решение вынесет судья, и делал свою работу, чтобы показать ему: решение неправомерно. В какой-то момент это стало делом принципа.

Я преследовал несколько целей, участвуя во всем известных процессах. Первая – это, конечно, показать клиенту, что адвокат сделал всё, чтобы его освободить. Вторая – донести до судей, что им придется заключать сделку с совестью, ведь они будут понимать, что вынесенный ими приговор несправедлив.

Когда есть только показания свидетелей в балаклавах, судье намного проще назначить 15 суток. А когда приходит адвокат и разбивает эти доказательства, судья, вынося сутки, вынужден переступать через себя.

**– Вы когда-нибудь лично задавали судьям вопрос, почему они это делают?**

– Я, к счастью, не знаком с судьями, поэтому мне неизвестны и непонятны их мотивы. Какая бы ситуация у тебя ни была – материальная, семейная, любая другая, – если ты идешь в судьи и даешь клятву выносить решение по закону, так и делай! А если не можешь – сдавай все свои квартиры, деньги и полномочия и подавай в отставку, но оставайся с чистой совестью. У меня же тоже есть и семья, и кредиты.

Многие приговоры сейчас пишутся не в кабинетах судей, поэтому известны еще до того, как судья уйдет в совещательную комнату. Мне абсолютно не понятно, почему эти приговоры оформляются – судей же просто используют. Мы не знаем, кто конкретно из МВД стряпает дела и фальсифицирует доказательства – этих людей пытаются раскрыть, на часто они не очевидны изначально. Но судьи не сидят в балаклавах, их имена и фамилии всем известны. Их просто используют, подкидывая очередной абсурдный приговор. Почему судьи этого не понимают и продолжают выносить эти решения?.. Мне не понятно, как после этого они могут смотреть в глаза своим родственникам, друзьям и даже соседям.

**– Наверное, как раз поэтому белорусский «сенат» одобрил законопроект, который разрешает в том числе судьям менять внешность.**

– Сейчас если не все, то большинство законов принимаются для того, чтобы упростить жизнь режиму. Однако имена большинства судей, которые выносили неправомерные приговоры, нам уже известны.

**– Вы известны как адвокат, который если не в дверь, то в окно зайдет, чтобы попасть к клиенту. Скажите, была ситуация, когда вам было страшно?**

– Вы знаете, не было – я всегда знал, что действую по закону, хотя и был морально готов к задержанию. У меня была цель – защитить клиента, поэтому если не пускают – надо ломиться, кричать и не уходить, даже если от тебя этого требуют. Хотите с применением силы? Давайте, но тогда вы нарушите закон. Когда начинаешь действовать так сильно, в какой-то мере это «их» останавливает. Когда к Алле Шарко пришли с обыском из ДФР, мы с журналистами стояли в подъезде. Приехала милиция, всех попросили спуститься вниз для проверки документов. Репортеры ушли, я же сказал, что никуда не пойду, потому что у меня есть право дожидаться клиента: «Хотите проверить документы? Вот мой паспорт, идите переписывайте и оформляйте, мне с вами идти необязательно». Мальчики-

